27 ЛІПЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№83 (614) КОШТ СВАБОДНЫ




# Базарное искусство

Никита ЯРИН

**Отгромыхал базар, отшумели славяне. Неуклюжая акция продемонстрировала полное отсутствие вкуса у властных структур, которые отвечали за ее проведение. Охарактеризовать «Славянский базар-99» можно одним выражением – это воинствующее убожество.**

### Концепция

На этот раз власти даже не стали маскировать, что Беларусь видится им частью «Великой России». Об этом говорила надпись над главной сценой фестиваля: «Витебск-99». Следует напомнить Владимиру Заметалину, отвечавшему за проведение этого мероприятия, что по-белорусски название областного центра пишется «Віцебск». Так оно и было написано все предыдущие годы, но на этот раз концепция праздника была изменена, и надпись над сценой изменилась.

Новая концепция «Славянского базара» вполне соответствует внешнеполитическому курсу нынешнего белорусского режима. Фестиваль открывался «Днем Беларуси на «Славянском базаре». Достаточно перечислить его участников, чтобы понять, что представляет собой сегодняшнее белорусское эстрадное искусство – Надежда Бабкина, Филипп Киркоров, C.C.Catch, группа Bad Boys Blue... ►

Окончание на стр.2



Фота REX/ProMedia

В день открытия фестиваля **Александр Лукашенко** подписал указ о присвоении ведущей «Славянского базара» **Алене Спиридович** звания «Заслуженная артистка Беларуси»

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Губернатор-«оппозиционер»

В Минск в понедельник вечером прибыл губернатор Калининградской области Леонид Горбенко. Нынешний визит примечателен тем, что в свое время в отношениях между калининградским губернатором и Лукашенко пробежала кошка. В 1997 году, когда белорусский лидер собирался посетить Калининград, Леонид Горбенко отказался встретиться с ним и прислал Лукашенко телеграмму, в которой сообщил, что не станет принимать его у себя до разрешения ситуации, связанной с арестом журналистов ОРТ Павла Шеремета и Дмитрия Завадского. О чем на этот раз поведут разговор демократ-Горбенко с левым Лукашенко?

***Егор ИВАНОВ***

### Збілі Тарлецкага

У Купалаўскім скверы сталіцы, непасрэдна перад цэнтральным уваходам у будынак адміністрацыі прэзідэнта, жорстка збіты старшыня Беларускай лігі свабоды сексуальных меншасцяў «Лямбда», журналіст Эдвард Тарлецкі. Увечары 24 ліпеня каля дзесяці маладых людзей ва ўзросце не старэй за 20 гадоў напалі на журналіста. Ад удараў ён страціў прытомнасць, і калі ачуняў, убачыў каля сябе толькі супрацоўнікаў міліцыі, якія спыталі, ці зможа пацярпелы сам дабрацца дадому.

### Радыё «Свабода» рыхтуецца да тэрактаў

Будынкі, дзе месцяцца радыёстанцыя «Свабода/Свабодная Еўропа» і амерыканская амбасада ў Празе, на працягу трох дзён знаходзяцца пад узмоцненай аховай паліцыі. Невядомыя па тэлефоне паабяцалі ўчыніць тэрарыстычны акт супраць «Свабоды». Таму вакол станцыі дзяжураць паліцыянты ў бронекамізэльках з аўтаматамі.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

наша СВАБОДА

# Сёння — Дзень Незалежнасці

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ, Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Дзевятую гадавіну прыняцця дэкларацыі аб суверэнітэце і незалежнасці масавым шэсцем і мітынгам будуць адзначаць сёння беларускія сацыял-дэмакраты. 10 дзён таму ў Мінгарвыканкам была накіраваная заяўка на дазвол шэсця ад плошчы Якуба Коласа па праспекце Скарыны да Палаца спорту. Мінгарвыканкам з гэтых просьбаў выканаў толькі адну — дазволіў сабрацца а 18-ай гадзіне на пл.Якуба Коласа, а вось мітынг перанёс на аддаленую ад цэнтра плошчу Бангалор.**

Між тым старшыня БСДП(НГ) Мікалай Статкевіч заявіў, што «дагэтуль сацыял-дэмакраты не праводзілі акцыяў пратэсту на гарадскіх «задворках», і ў бліжэйшы час вырашыцца, дзе будзе праходзіць мітынг.

Карэспандэнт НАВІНАЎ задаў некалькі пытанняў **Мікалаю СТАТКЕВІЧУ**:

***— Колькі людзей вы плануеце вывесці на вуліцы?***

— Думаю, некалькі тысяч. Лета — не самы спрыяльны сезон для масавых акцыяў. Тым болей, што адмоўны эфект будзе ад мерапрыемства 21 ліпеня — людзям цяжка хадзіць на акцыі так часта.

***— Чым сёньняшняе святкаванне будзе адрозніваца ад мінулых?***

— Сёньняшняя акцыя будзе праходзіць у абсалютна новых умовах — калі пасля пяці гадоў прэзідэнцтва Лукашэнкі ў Беларусі не засталося легітымнай выканаўчай улады. Таму мы пакідаем за сабой права не падпарадкоўвацца рашэнням ўладаў, бо яны нелегітымныя.

***— Акцыя пройдзе па заяўленым маршруце?***

— Ведаеце, святкаваць Дзень Незалежнасці дзесьці на задворках плошчы Якуба Коласа, потым ісці па ходніках — я проста дзіўлюся міліцэйскай фантазіі. Улады нам прыдумваюць маршрут — а мусяць толькі даць дазвол на правядзенне акцыі. Няхай скажуць «дзякуй», што мы іх увогуле папярэдзілі. Калі іхнія паводзіны нам не спадабаюцца, мы і папярэджваць не будзем — бо яны ж незаконныя.



**Мікалай СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада)**

Мы — рух Беларусі за дэмакратыю, і мы будзем аказваць ціск на ўлады, пакуль яны самі не захочуць сесці за стол перамоваў з апазіцыяй.

***— Ці не баіцеся вы, што вас пасля акцыі арыштуюць?***

— Гэта, канешне, непрыемна, але сказана ж: «рабі, што павінен, і што будзе, тое і будзе!». Так што прыходзьце а 18-ай на плошчу Якуба Коласа — не засмуцеце. ■

## 27 ліпеня 1999 г., аўторак

**плошча ЯКУБА КОЛАСА, 18⁰⁰**

**Дэманстрацыя і мітынг пратэсту ў Дзень Незалежнасці супраць узурпацыі ўлады былым прэзідэнтам краіны А.Лукашэнкам і яго злачынных спробаў ліквідаваць незалежнасць БЕЛАРУСІ.**

**АБАРОНІМ СВАБОДУ І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!**

Каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл БЕЛАРУСІ

# Надзвычайнае здарэнне на «Славянскім базары»

13 чалавек пацярпелі ў выніку аўтакатастрофы ў Віцебску

Аляксей ШМЯЛЁЎ

Надзвычайнае здарэнне адбылося ў 2 гадзіны ночы 25 ліпеня ў Віцебску. Пасля заканчэння фіналу конкурсу маладых выканаўцаў фестывалю «Славянскі базар», які праходзіў у гэтыя дні ў абласным цэнтры, у натоўп гледачоў, якія ўжо разыходзіліся дадому, урэзаўся легкавы аўтамабіль «Мазда». Як высветлілася пазней, аўтамабіль быў угнаны за некалькі гадзінаў да здарэння п'янымі маладымі людзьмі, якія, спрабуючы ўцячы ад міліцэйскага патруля, не справіліся з кіраваннем і наязджалі на людзей датуль, пакуль аўтамабіль зусім не спыніўся. У выніку здарэння з траўмамі рознай ступені цяжкасці былі шпіталізаваныя 13 чалавек, сярод іх двое непаўналетніх. Пяцёра з іх на момант выхаду нумара выпісаліся, 7 знаходзяцца ў шпіталі з пашкоджаннямі сярэдняй ступені цяжкасці, адна дзяўчына ў рэанімацыі ў цяжкім стане, але, па словах урачоў, яе жыццю нічога не пагражае. ■

## НАДВОР'Е




28 і 29 ліпеня па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць. 28 ліпеня пераважна без ападкаў, 29 ліпеня на большай тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер усходні, паўночна-ўсходні, 5—10 м/сек, пры навальніцах — 15—20 м/сек. Тэмпература ноччу 13—18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

# Недород как черта национального хозяйства

**Константин СКУРАТОВИЧ**

**Принято считать, что основным направлением сельскохозяйственного производства в Беларуси является мясо-молочное животноводство. Поэтому его сохранению и развитию наше государство придает исключительное значение.**

Мы не станем опровергать эти приоритеты, но покажем, что результаты их пятилетнего утверждения оказались ничтожными. Многие сочтут такой вывод слишком резким, поэтому, чтобы избежать обвинений в предвзятости, обратимся к показателям, которыми пользуется официальная статистика. Так, по данным минстата, в 1985 году, накануне Чернобыля, в БССР стадо крупного рогатого скота достигло максимального уровня — 7.556 тысяч голов, а сегодня во всех категориях хозяйств (колхозы, совхозы, межхозы, фермерские и личные подсобные хозяйства населения) насчитывается только 4.063 тысяч голов, то есть почти в 2 раза меньше. Свиное поголовье сократилось почти на две трети. Понятно, что для выполнения стратегической задачи возврата животноводства на уровень максимальных объемов производства 80—90 гг. его продуктивность должна быть повышена в 2-3 раза. То есть бычок должен набирать вес «за себя и за того парня», а поросенок — за двоих погибших от бескормицы братьев.

Следует отметить, что поголовье скота продолжает сокращаться: по состоянию на 1 июля текущего года по сравнению с аналогичной датой 1998 г. поголовье крупного рогатого скота уменьшилось на 221 тысячу голов (5% общей численности), свиней — на 37 тысяч (2%). Этим в основном объясняется растущий дефицит мясо-молочной продукции в розничной торговле, несмотря на сокращение платежеспособного спроса на нее. Сегодня в продаже практически не бывает мясных изделий из субпродуктов, отсутствуют вареные колбасы, нет молока, кефира, сметаны (нет везде, исключая Минск, где они бывают эпизодически). Дефицит при росте цен — статья особая, поэтому не станем останавливаться на ней.

Для объяснения резкого сокращения производства продукции животноводства, конечной для сельхозотрасли (ни овес, ни сено, понятно, для непосредственного потребления населением не годятся), называются самые разные причины, в том числе и мировой экономический кризис. Но самой популярной, по традиции, остается ссылка на погодные условия, которые не позволяют создать достаточный запас кормов. Конечно, и дожди, и засуха имеют место быть у нас, как и в любой другой стране. Но скотина голодает только у нас. Причем, недород оборачивался недокормом и тогда, когда поголовье было большим, и теперь, когда оно сократилось в 2-3 раза.



Поэтому, говорится в докладе минстата о работе народного хозяйства в первом полугодии 1999 года, продуктивность животных продолжает снижаться (по сравнению с первым полугодием прошлого года среднесуточные привесы крупного рогатого скота уменьшились на 17% и составили 320 граммов, свиней — на 10% и составили 372 грамма). При таких привесах, считают специалисты, откорм бычка до 400 килограммов растягивается на 3 года, тогда как нормой считаются привесы до 800 граммов в сутки, а срок откорма — 15-17 месяцев. Понятно, что при существующей продуктивности никаких кормов не напасешься, если бычка откармливать три года, то мясо надо будет продавать по запредельной, недоступной потребителю цене.

Нынешний год, когда традиционно сложные погодные условия стали на самом деле нетрадиционно сложными (помимо небывалых майских заморозков, в первую половину лета на большей части территории Беларуси выпало всего 25-75% осадков от нормы), кардинальных перемен в лучшую сторону не сулит. Несмотря на то, что этим летом для предприятий и населения была частично восстановлена «корморазверстка», изобретенная Петром Машеровым в засушливом 1979 году, в первом полугодии в хозяйствах кормов из трав заготовлено на 1/3 меньше, чем за аналогичный период 1998, далеко не самого урожайного года. Поэтому будущий стойловый период оставляет колхозам и совхозам две альтернативы: или резать скот несмотря на административное указание, которое уже контролирует Совет безопасности (у нас сельским хозяйством по традиции все ведомства занимаются больше, чем сами крестьяне), или держать скотину впроголодь, балансируя на грани ее массового падежа.

Хотелось бы обратить внимание и на такое обстоятельство. До сих пор кризис в сельском хозяйстве не выглядел катастрофой благодаря относительной либерализации порядка ведения личных подсобных хозяйств. К середине 90-х гг. в них уже производилась половина всей сельхозпродукции, хотя они располагали всего 1/6 частью посевных площадей. Но увеличение удельного веса частного сектора в общем объеме производства произошло не потому, что частник резко наращивал объемы, а потому, что производство деградировало в общественном секторе. Фактически население не увеличило производство молока и мяса (хотя до последнего времени и не сокращало его), но сейчас поголовье скота стало резко сокращаться и в крестьянских хозяйствах. Так, по данным минстата, в первом полугодии текущего года закупки скота и птицы во всех категориях хозяйств уменьшились на 6%, но в хозяйствах населения — на 11%.

Причины тому разные, например, демографические. Деревня стареет, в ней в основном живут уже не те относительно молодые пенсионеры, которые, избавившись от необходимости отбывать колхозную барщину, усердно занимались собственным подворьем, а те, которым интенсивная трудовая деятельность уже не по силам. Но главное заключается в том (тут можно полностью согласиться с советскими идеологами), что колхозы и хозяйства населения — это неразрывные структуры единого социалистического хозяйствования. Поэтому закономерно, что деградация колхозов есть деградация сельской экономики вообще. Извел, допустим, колхоз лошадей или добил последний трактор, куда крестьянину податься? На себе пахать? Кто знает, может и придется... ■

# Блестящая возможность простить долги

**Джеффри САКС**

**Богатым странам, собравшимся на экономический саммит стран Большой Семерки в Кельне в июне этого года, было что сказать по поводу своих отношений с бедными странами. Во-первых, они допустили, хотя и не признали этого полностью, что их предыдущие попытки сократить долги развивающихся стран провалились. Таким образом они дали сигнал к началу развертывания новой программы (немедленно окрещенной Кельнской Инициативой), которая была бы направлена на дальнейшее сокращение долгового бремени так называемых сильно задолжавших бедных стран. Во-вторых, они поручили Международному Валютному Фонду и Всемирному Банку пересмотреть свои стратегии развития с тем, чтобы в большей мере сфокусироваться на социальных проблемах, в особенности на образовании и здравоохранении.**

Конечно же, можно вполне цинично отнестись к обоим заявлениям. В конце концов, на протяжении многих лет большинство объективных обозревателей ясно сознавало, что у богатых стран не существует стратегии по сокращению невыплачиваемых долгов бедных стран, однако таких критиков призывали к спокойствию, утверждая, что все идет своим чередом. Более того, лишь министры финансов стран Большой Семерки могли верить в то, что МВФ и Всемирный Банк правильно поступали по отношению к беднейшим странам. На самом же деле их действия зачастую приводили к катастрофам или просто были неуместны. МВФ в особенности не имеет стратегии долгосрочного экономического развития, хотя Соединенные Штаты и присвоили МВФ ведущую роль в деле экономического развития в десятках бедных стран.

Другим поводом для цинизма служит то, что страны Большой Семерки начали действовать в основном не по собственной инициативе, а в ответ на растущие мольбы со стороны мирового гражданского общества сделать что-нибудь во имя беднейших мира сего. Вера в Кельнскую Инициативу оказывает исключительное влияние на международное движение, известное под названием «Юбилей 2000», — движение простых людей, основанное на библейской концепции юбилея, согласно которой неоплаченные долги должны быть прощены с тем, чтобы дать возможность должнику начать новую жизнь. Движение «Юбилей 2000» имеет своих сторонников во всех уголках земного шара, в число их входят Папа Римский Иоанн Павел Второй, рок-звезды типа Боно из ирландской группы U2 и неправительственные организации, представляющие разнообразные религии и профессии.

Однако, пытаясь понять Кельнскую Инициативу, нам следует быть выше цинизма, главным образом для того, чтобы заставить страны Большой Семерки сделать все необходимое для обеспечения успеха Инициативы. Обнародованные в Кельне детали Инициативы разочаровывают, но эти детали все еще могут измениться под давлением международной общественности.

Мотивация к немедленным действиям во благо беднейших стран очевидна. В совокупности население 42 стран, являющихся частью Инициативы, составляет примерно 700 миллионов человек. Около трех четвертей этих людей живут в Африке. В общей сложности средняя продолжительность жизни населения стран Инициативы составляет примерно 50 лет, по сравнению с 78 годами в богатых странах. Около трети детей не получают достаточного питания, и в результате пожизненно страдают от физической и умственной неполноценности. Многие из них никогда не закончат даже начальную школу и не смогут сыграть эффективную роль в современном обществе. Свирепствуют болезни, среди которых эпидемия СПИДа, убившего в Африке в прошлом году около 2 миллионов человек, и малярия, унесшая более одного миллиона жизней.

Успешная Кельнская Инициатива была бы построена на следующих принципах. Во-первых, долги стран, страдающих от исключительной нищеты и болезней, должны быть полностью прощены. Примерно 25 из 42 стран, возможно, нуждаются в полном прощении долга. Во-вторых, Программа Развития Организации Объединенных Наций (ПРООН) и Всемирный Банк, а не Международный Валютный Фонд, могли бы позаботиться о том, чтобы списание долгов открыло путь к новым и честолюбивым программам социальной модернизации, сосредоточенным на образовании и здравоохранении.



Джеффри САКС, директор Гарвардского Института международного развития, профессор международной торговли в Гарвардском Университете. Он являлся главным иностранным советником по экономическим вопросам в правительствах Польши, России и Боливии

ПРООН следует превратить свой ежегодный Доклад о Человеческом Развитии в конкретное руководство к общественным действиям с тем, чтобы помочь обеспечить каждую развивающуюся страну эффективными программами вакцинации детей, предотвращения СПИДа, питания недоедающих детей, улучшения доступа к чистой воде и медицинского обслуживания новорожденных. ПРООН также должна взять на себя задачу координирования деятельности специализированных агентств Организации Объединенных Наций ради блага беднейших в мире с тем, чтобы гарантировать ключевым организациям (таким, как Детский Фонд Организации Объединенных Наций (ЮНИСЕФ) и Всемирная Организация Здравоохранения (ВОЗ), доступ к необходимым для выполнения своей миссии финансовым ресурсам.

**Project Syndicate, July 1999**

## ДЫЯГНАЗ

### Политомужествление



Александр ПОТУПА

Есть такой бородатый (а теперь и усатый) анекдот. В больнице помирает от острой дизентерии большой начальник. Зовет доктора. Прибегает главврач. «Доктор, запишите последнюю просьбу. Пусть в моем посмертном диагнозе стоит — сифилис». «Ой, что вы!» «Да, доктор, я хочу умереть как мужчина, а не как засранец!»

Эту в некотором роде притчу я стараюсь воспроизвести каждый раз, когда очередной сильный (или полусильный, или даже четвертьсильный) мира сего начинает объясняться на ту тему, что все понимает и готов из своего чиновничьего или предпринимательского кресла нырнуть с головой в политику. Желательно — на какое-нибудь видное или даже выдающееся место в рядах оппозиции. Потому как после всего, что он искренне делал для *всепростонародноизбранного*, тот просто обязан был жениться, однако не обращает внимания, изменщик, или, напротив, сильно обращает, но на одни лишь недостатки и доходы. И вот теперь непременно *посадить-перетрахнут-уволють*. Только ежели бы не по уголовной линии, а по благородной политической, вышло бы большое моральное удовлетворение с коекакими материальными перспективами. Плюс полнейшая готовность перейти от усердного зализывания к болезненному покусыванию. Но лучше издали — из какого-нибудь приятного зарубежья.

Очень характерный, доложу я вам, симптом. Похоже, стало доходить.

В отличие от пыток безвременно опущенного зайчика эксперимент по выведению *полностью конвертируемого чиновника* завершился успешно. В процессе отчаянной борьбы с коррупцией и усиления роли государства конверты с зеленью стали универсальным средством привязки к служению Отечеству. И к простому народу, идущему за разнообразными разрешениями. Вот и флаг логичный — снизу зелень, сверху остатки совести, слева конвертики. Всякий, кто полагает, что за осуществление функций государственного управления достаточно заплатить 40-100 долларов в месяц, пусть принесет справку о вменяемости. С визой от «вертикали».

Проблема, однако, в том, где, собственно, хранить нажитое благосостояние и как избавиться от постоянных приступов верховной истерики и непрерывно воображаемого кошмара, где тебя хватают с очередным поганым конвертиком и все нажитое вместе с должностью и девичьей честью конфискуют, фискуют, куют... А заграничные счета вот-вот взломают ЦРУшные хакеры — как только разберутся с Милошевичем и его друзьями. Или отберут в ходе дружеской подвальной дискуссии отечественные следователи. Тут не только в политику — на стенку полезешь.

Привожу реальную концовку вышепритянутого за уши анекдота. Доктор тут же пишет в деле: «Впредь дизентерию считать сифилисом. *Надо жить как мужчина, а не умирать как придурок.* Главврач психиатрической больницы Такой-то». Больной, не читая, вносит: «Декрет вступает в силу с даты подписания». Ставит номер декрета, дату, свою подпись и спокойно испускает дух. Занавес. ■

АКЦЫЯ

# Цена ошибки — жизнь

## Последняя декада июля в Минске прошла под знаком Всемирной кампании против СПИДа

Наталья РАДИНА

**Лозунгом этой кампании стал призыв «Слушать, учиться и жить». Слушать — детей и молодежь, чтобы понять, что для них важно в жизни. Учиться — друг у друга участию и поддержке, а также тому, как защититься от ВИЧ-инфекции. Жить — в мире, где соблюдаются права детей и молодежи, в мире, где люди, живущие с ВИЧ и СПИДом, окружены заботой и не страдают от дискриминации.**

Первой большой акцией этой кампании стала экспозиция квилтов, которая состоялась 23-25 июля на площади Парижской Коммуны. ЕвроКвилтТур-99 начался в Москве в День памяти умерших от СПИДа. За это время Тур прошел по городам Украины и Беларуси и направился в Латвию и Польшу, останавливаясь в каждом городе на три дня.

американец Клив Джонс сшил памятное полотно по своему лучшему другу Марку Фельдману, умершему от СПИДа. Тогда большинство людей во всем мире считали, что эпидемия обойдет их стороной. С тех пор прошло двенадцать лет, эпидемия продолжает уносить все новые жизни. Десятки тысяч людей во всем мире стали шить памятные полотна по друзьям, близких навсегда исчезли за цифрами статистики.

Вот они лежат, четыре полотна, которые пока еще невозможно сшить в секцию, так как она должна состоять из восьми полотен. На них трогательные рисунки-аппликации, символизирующие потерянную жизнь любимого человека, и надписи: «Папочка, я люблю и помню тебя! Алинка, 6 лет», «Ушел из мира человек, ушел туда, где жизни нет, ушел туда, где темнота...», «Лежат без дела ножницы и нитки, и ткань не тронет ее рук...». Все это время играет траурная музыка, в микрофон звучат имена умерших от СПИДа. Их сотни, сотни тысяч имен молодых, когда-то живых и неосторожных, вспомнивших о


Фото Ул. ШЛАПАКА

Вот такие полотна шьются в память об умерших от СПИДа

Обидно, но в Минске экспозицию квилтов посетило очень мало людей. Видимо, не смотря на активное распространение СПИДа в нашей стране, эта угроза мало кого пугает. Мы остаемся равнодушными не только друг к другу, но и к самим себе. А ведь КвилтТур и был задуман для того, чтобы люди, храня память об умерших, больше заботились о себе и своих близких.

### Что же это такое — квилт?

Возможно, что причина кроется не только в равнодушии, но и в нашем незнании, что же такое квилт. Традиция зародилась в 1987 году, когда любимым, сестрам и братьям, родителям и детям, которых отнял у них СПИД. Готовые полотна соединяют в большие квадраты-секции, предназначенные для публичных показов. Сегодня международный СПИД-мемориал «Квилт» насчитывает более 45 тысяч памятных полотен и существует в 40 странах мира.

В Минске были представлены 27 секций из 14 стран мира. Несмотря на то, что в Беларуси от ВИЧ-инфекции умерло 46 человек, для экспозиции согласились представить полотна родственники только четырех умерших. Все они из Светлогорска... Эти люди не захотели, чтобы имена их цене жизни слишком поздно...

### Дима: «Я хочу, чтобы на моем полотне нарисовали скрипичный ключ...»

Все это время в стороне сидел парень, который, обняв свою подругу, плакал навзрыд. Несмотря на то, что люди ходили между полотнами притихшие и подавленные, Дима привлекал всеобщее внимание. Многие терялись в догадках: о ком он плачет? О друге или любимой девушке? Оказалось, о себе. Вот уже полгода, как он болен СПИДом... Ему всего 25 лет:

*«Я не могу не плакать, глядя на эти полотна. Ведь все эти молодые ребята умерли из-за глупости... Из-за глупой неосторожности умру и я... Что я сделал в своей жизни, кроме ошибок? Знаете, когда я смотрю на эту акцию, мне не так страшно умирать... Я вижу, что этих людей помнят, может, вспомнят и меня... Я хотел бы, чтобы на моем полотне был нарисован скрипичный ключ...»*

Кампания «Слушать, учиться, жить» прошла при финансовой и технической поддержке Программы ООН СПИД, Программы развития ООН, Детского фонда ЮНИСЕФ, Белорусской ассоциации клубов ЮНЕСКО, Либерально-демократического союза молодежи и общественной организации «Реальный мир». ■


Фото Ул. ШЛАПАКА

Уже полгода он болен СПИДом...

МЕРКАВАННІ

# Мухабойка

Вадзім КАРЦАЎ

**Тэма фашызму неяк абвострана для канца XX стагодзьдзя паўстала сёньня ў Беларусі. Так ці йнакш, кожны, хто мае сумленьне, мусіў бы выказаць сваё стаўленьне да гэтай зьявы. Улады, прэса, апазыцыя, трэці сэктар ціха рэагуюць на жудасную, у прынцыпе, рэч. Спадарства, абазначцеся й скажыце: з кім вы?**

Хацяў, што да нашых уладаў, дык тут усё зьболшага зразумела. Абазначыліся. Яны ўжо які раз то забараняюць, то зрываюць антыфашысцкія акцыі.

Апусьціліся да таго, што 11 ліпеня, калі Малады Фронт зьбіраўся наладзіць канцэрт «Моладзь супраць фашызму», міліцыянтамі перакрылі падыходы да Опэрнага тэатру й дээінфармавалі ўсіх, хто туды йшоў: маўляў, мерапрыемства перанесенае ў клюб «Альтэрнатыва». Тое самае рабілі «шаптуны» ў натоўпе каля сцэны, тым часам як нейкія мярзотнікі псавалі сьцізорыкамі шнуры, а падасланы пажарнік складаў ліпавы акт пра непрыдатнасьць апаратуры для выкарыстаньня ў «месцах масавага скапленьня людзей». Цікава, а дзе яшчэ можна выкарыстоўваць канцэртную апаратуру?

Усё правільна й лягічна. Для ўладаў дазволіць узьняцца антыфашысцкай хвалі – значыць праілюстраваць сваё злачыннае бязьдзеяньне ў адносінах да РНЕ.

Сатанінская хваля фашызму дайшла да нашых земляў і нашага часу. Ілжывыя тэорыі, газэты (прычым па-беларуску таксама), улёткі, артыкулы, дзе-нідзе й канкрэтныя акцыі, паціху, бы цьвіль, пакрываюць брудам нянавісьці розумы юнакоў, а здараецца, і іхных бацькоў, што маюць комплекс уласнае нацыянальнае непаўнавартасьці.

Пад маркай патрыятычнага радыкалізму (здаровае, па сутнасьці, зьявы) чорныя рамантыкі сунуць пад нос абывателю забойныя лёзунгі ды раскрыцці «сусьветных змоваў».

Як быць? Ці ня ёсьць фашызм ці, слушней і канкрэтней – нацызм у розных ягоных формах (расізм, антысэмітызм, шавінізм, ксэнафобія) праявою плюралізму думак у грамадзтве й прызнакам дэмакратычнасьці ладу ў краіне? Паўстагодзьдзя таму міжнародны суд у нямецкім Нюрнбэргу даў ясны адказ на гэтае пытаньне: рэпрэсіі па крэўным прызнаку й адпаведная прапаганда – нацызм – ёсьць найцяжэйшым злачынствам супраць чалавецтва, па якім юрыдычна няма тэрміну даўніны.

Ваш сусед, які ўсур'ёз разважае пра засільле «картавых», прапануе пляны расправаў, марыць пра магутную краіну «ад Курылаў да Багамаў», населеную «рускімі» ці «белымі», й вярзе іншую лухту, якая можа падацца бяскрыўднаю, дык вось гэты чалавек – нацыст, які ўжо (!) стаў супраць закону й маралі.

«Кідала», «макрушнік», «нацык», «кішэньнік»... – лягічны рад асобаў, кампаніі якіх нармалёвы чалавек пазьбягае. Вы – нармалёвы чалавек? Тады рабіце гэтак.

Ветліва, інтэлігентна, але цьвёрда, бо прыніжэньне, гвалт, абразы й дэмагогія – іхная ж, нацыстаў, зброя, паведамце гэтаму свайму суразмоўцу, што для вас абсалютна непрымальныя нават намёкі на саўдзел у ягоным злачынстве, што ён фатальна для сябе памыляецца, калі зьневажае цэлыя народы альбо надае той ці іншай нацыі нейкія місьтычныя ролі, што ён гэтым самым робіць сябе пэрсонаю нон-грата ў вашым доме й наогул у цывілізаваных, культурных асяродках.

Важна адразу абвесьціць сваю пазыцыю, а не выдаваць на ўважлівага слухача. Тым болей нельга ўцягвацца ў дыскусію, бо на вашым баку праўда й закон, а насупраць – несумненнае злачынства.

Пабыўшы ізгоем, дасьць Бог, гэтая асоба зразумее кошт чалавечае годнасьці й справядлівасьці да адумаецца. Час выхоўвае.

А што да ўладаў, дык яны ж і ёсьць нейкай неспасьціжнай эфэмэрнай сілай. Яны – гэта канкрэтныя людзі, суб'екты права, прозвішчы асабліва спрытных альбо асабліва бязьдзейсных зь якіх, прыйдзе час, годна ўпрыгожаць першыя абзацы абвінаваўчых заключэньняў.

Адзіная заўвага: лёзунг «Раздавім фашысцкую гадзіну!» гучыць занадта пафасна. На сёньняшні дзень фашызм у арганізаванай форме, калі ня ўлічваць раздзьмутую рэжымам славянафільскую афіцыйную ідэалёгію, — гэта хутчэй ня гадзіна, а муха.

Трэба проста абзавесьціся маральнай мухабойкай. ■

СВЕДЧАННЕ

# Товарищ Сухов как угроза госбезопасности

Александр СИЛИЧ
Хартия'97, Брюссель

21 июля. Аэропорт Минск-2. Корреспондент НАВІНАЎ, являющийся также представителем Хартии'97, после отпуска для продолжения работы вылетает в Брюссель. В чемодане — около двухсот бюллетеней Хартии'97, личные вещи, 15 новых запаянных видеокассет с записями советской кинoклассики: «Белое солнце пустыни», «Золотой теленок», «Бриллиантовая рука» и т.д. Все эти кассеты меня попросила привезти белорусская диаспора в Бельгии. Ностальгия, понимаешь. В чемодане также 10 CD-дисков с записями русской, белорусской, советской музыкальной классики, а также нужные для работы программы и словари. Все для той же диаспоры и для себя. И вот представьте себе мое удивление, когда наши белорусские таможенники вдруг запрещают к вывозу все видео-, аудиокассеты, дискеты и CD-диски. Хорошо хоть удалось отдать это все провожающим, а так бы конфисковали в доход родного государства. Оказывается, все это добро я должен был привезти на таможню (аэропорт — в 50-ти километрах от Минска) за сутки до вылета для просмотра и прослушивания. А то вдруг на кассетах этих не Корейко с Бендером или Семен Семенович Горбунков с шефом, а самая что ни на есть репетиция государственного переворота в Беларуси? Или верещагинское «За державу обидно!» каким-то образом может намекнуть заграничному зрителю на окончание полномочий нашего всенародноизбранного. Интересно было бы мне посмотреть на лицо того же поляка или немца, которому запрещают на таможне вывезти какую-то там видокассету или дискету. Даже если там подробности интимной жизни Билла Гейтса или Джорджа Сороса. Эх, жаль, не удалось продвинуть нашу культуру среди «темных» европейцев. Но зато теперь верю, что наша государственная безопасность спасена окончательно. А за державу все-таки обидно!

***P.S.** А на бюллетени Хартии'97, кстати, — ноль внимания. Может, потому что на английском. Но что самое смешное, на этом языке в Европе как-раз и понимают.* ■

# Навінка беларускамоўнага відэа

На мінулым тыдні з'явілася ў продажы відэакасета з трэцім ужо мультыплікацыйным фільмам для дзетак, дубліраваным па-беларуску.

«Болта» — гэта вельмі чуллівая гісторыя пра сабаку, які ўратаваў хворых дзяцей у мястэчку Ноўм на Алясцы. Дапамагалі яму гэта зрабіць ягоныя верныя сябры: гусак Барыс, мядзведзікі Мак і Лак, а таксама прыгажуня лайка Джэна.

У агучванні фільма па-беларуску прымалі ўдзел Таццяна Мархель, Вера Шыпіла, Ігар Пятроў, Алег Радкевіч, Сяргей Тарасюк і Наталля Кот.

Ёсць навінкі і сярод аўдыёкасет: «Ехаў казачнік Бай» — калыханкі і казкі для маленькіх, «Цік-так ходзікі» — песні, вершы, казкі, «Беларускія народныя казкі», «Стойкі алавяны салдацік + Каліф-бусел» — музычныя казкі.

Як і раней, касеты можна атрымаць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым переводам на рахунак: ЗАТ «Сотвар» р/р 2120000000541 у філіі 506 ААБ «Беларусбанк», код 809. У графе «Для пісьмовага паведамлення» абавязкова напішыце, якую касету вы замаўляеце. Мінчукоў просім звяртацца на тэлефон 228-45-88, 228-45-87.

Кошт відэакасеты — 800 тыс.руб., кошт аўдыёкасеты — 300 тыс.руб. ■




© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 576 Нумар падпісаны ў друк 26/07/99 (15:00) Наклад — 16.700